*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 21(458) 31 ТРАЎНЯ 2000 г.

# МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ







У Менску адбыўся Міжнародны кангрэс беларусістаў. Яго ўдзельнікі - 270 навукоўцаў і грамадскіх дзеячоў з адзінаццаці краін свету. Сярод іх дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель, прафесар універсітэта ў Беластоку Ян Чыквін, дырэктар Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане Аляксандр Надсан і іншыя.

На здымках:
1. Кангрэс адкрывае прэзідэнт МАБ Адам Мальдзіс.
2. Удзельнікі кангрэсу прафесары Анатоль Грыцкевіч і Мікалай Крукоўскі ў зале кангрэсу.
3. Генадзь Бураўкін і Радзім Гарэцкі сярод удзельнікаў кангрэсу.

## *Нечарговая канферэнцыя ТБМ у Маладзечне*

16 сакавіка 2000 у Маладзечне адбылася нечарговая канферэнцыя маладзечанскай гарадской арганізацыі ТБМ на якой прысутнічаў 31 дэлегат.

Старшынём гарадской рады ТБМ абраны Сяргей Іванавіч Юркевіч. У склад рады увайшло 8 чалавек. Таксама абрана рэвізійная камісія ў складзе трох сяброй начале са сп. Мацвеенкам У.У. Маладзечанская гарадская арганізацыя ТБМ пастаўлена на ўлік у мясцовым гарвыканкаме 11 кастрычніка 1999 года.

***Сакратарыят.***

## Да гадавіны трагедыі на Нямізе

24 траўня ў памяшканні музея Багдановіча адбылася прэзентацыя кнігі "Трагедыя на Нямізе". Яе выйсце прымеркавана да гадавіны трагедыі 30 траўня.

"Трагедыя на Нямізе" – гэта дакументальная кніга асаблівы помнік загінуўшым і напамін жывым. У ёй сабраны сведчанні пацярпелых 30 траўня 1999 г. у падземным пераходзе на станцыі метро "Няміга" у Менску, а таксама ўспаміны блізкіх родзічаў і сяброў аб усіх 53-ох загінушых.



## *Ахвяраванні на ТБМ*

Рассветаўская суполка ТБМ Акцябарскага р-на Гомельскай вобласці:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Чубенка Іра Ф. | 1.000 | Каратыш Марыя | 1.000 |
| Швайба Н.К. | 1.000 | Матузава Тамара | 1.000 |
| Волкава Ніна | 1.000 | Вежнавец Лідзія | 300 |
| Дудко Л.В. | 1.000 | Папруга Вал. | 300 |
| Сямёнаў Віктар | 1.000 | Іскрыцкая Тамара | 300 |
| Кірдун Вераніка | 1.000 | Савельева Тамара | 300 |
| Падаляк Сяргей | 1.000 | **Усяго** | **10.200 руб.** |

| | |
|---|---|
| Суполка "Рэфармацыя | 10$ |
| СШ № 2 г.Салігорска | 540 руб. |
| Георгій Штыхаў (Менск) | 5.000 руб. |
| Яўген Міцкевіч (Менск) | 500 руб. |
| Цітавец (Менск) | 800 руб. |
| ФіВ (Докшыцы) | 500 руб. |
| Хвата С.І. (Горадня) | 1.000 руб. |
| Петруковіч В.І. (Менск) | 1.200 руб. |
| Плакса Уладзімір (Менск) | 2.800 руб. |
| Анісім Алена (Менск) | 1.000 руб. |
| Санько Зміцер (Менск) | 500 руб. |
| Санько Наталля (Менск) | 500 руб. |
| Санько Яніна (Менск) | 500 руб. |
| Будаўнік з Менску | 100.000 руб. |
| Раённая рада ТБМ Ленінскага р-на г.Менска | 5.000 руб. + 5 $ |
| Малады Фронт | 5.000 руб. |

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## Шаноўнае спадарства

Прадаўжаецца падпіска на "Наша слова". Можам давесці, што ў каталогах з'явілася ўклейка пад назвай "Дадатак № 2". У раздзеле "Рэспубліканскія газеты" знаходзіцца "Наша слова". У сувязі з гэтым дадаткам № 2 менскія паштавікі папрасілі дадаць да індэкса 63865 двоечку, што мы і зрабілі

Мы просім усіх сяброў весці прапаганду нашай газеты і асабліва сярод пабочных нашай арганізацыі людзей. У Лідзе пры зборы подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт было абыдзена некалькі тысяч кватэр. 90 працэнтаў жыхароў ніколі нічога не чулі пра ТБМ і нашу газету. Хаця ў Лідзе не самая горшая арганізацыя. А што мы можам чакаць ад тых гарадоў і раёнаў, дзе ТБМ няма?

Шаноўнае спадарства! Калі дзе здарыцца, што нашай газеты няма ў каталогу ці кампутары, упарта патрабуйце, каб яна туды была ўключана. На гэты раз мы нікуды не спазніліся, нідзе не памыліліся, і, нават іхнія законы на нашым баку.

Мы чакаем вашай падтрымкі.

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865 / 2** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА**
(назва выдання)

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865 / 2** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА**
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 882 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча,ініцыялы)

## 6 чэрвеня Аляксею ДУДАРАВУ - 50



Кожны пісьменнік, калі ён варты гэтага наймення, у нейкім сэнсе ёсць сведкай жыцця сваёй краіны, свайго народа. Таму па творах літаратуры можна з відавочнасцю меркаваць пра стан грамадства ў той ці іншы час. Патрабавальны да сябе творца проста не здолее заставацца ў баку ад балючых праблемаў і не будзе знаходзіцца ў пазіцыі староннягa наглядальніка. Для Аляксея Дударава гэта з'яўляецца аксіёмай. "Жыццё – выпрабаванне чалавека на чалавечнасць", - лічыць ён і асабістым прыкладам сцвярджае гэтую ісціну.

Уласнае стаўленне да пытанняў, якія ўздымаюцца ў ягоных п'есах, дазваляе верыць, што пісьменнік і ў рэальных абставінах шукае і знаходзіць на іх адказы. І гэта лепшая зарука творчага даўгалецця, адчуванне сваёй запатрабавальнасці ў час іспытаў на чалавечнасць. Неяк у Аляксея Дударава спыталіся, што прымушае яго, вядомага тэатральнага і грамадскага дзеяча, выходзіць з усімі на чарговы мітынг. Ён адказаў так, як адказалі б героі ягоных п'ес: "Бо гэта ўсё, што можа зрабіць у такой сітуацыі просты сумленны грамадзянін. І я хачу, каб мой сын ведаў, дзе ў такі час быў ягоны бацька".

**Выняткі з некаторых інтэрвію А. А. Дударава ў 1998-1999г.г.**

• Інтэлігенцыя не павінна жыць у грамадстве, пастаянна як бы просячы прабачэння за сваё існаванне.

• Калі ты маеш здольнасць, раскрывай дзверцу тую, дзе драбніцы дабра і святла, якія чалавецтва назбірала: у аднаго больш, у другога менш. Але яно ёсць.

• Ну не бывае такога, каб пісьменнік быў апалітычны. Гэта асоба, якая на адпаведныя ідэі, адпаведныя словы павінна рэагаваць. Я не веру таму пісьменніку, які кажа: "Не цягніце мяне ў палітыку, я палітыкай не цікаўлюся, мне важна сядзець і апісваць, як траўка расце...". Гэта не пісьменнік!

• За нашу мову я буду змагацца да апошняга, таму што душа мая гаворыць на беларускай, руская – для быту, для "кухні", але ў творчасці... Творчасць - песня. А песні спяваць я магу толькі на роднай мове.

• Я не ведаю, у якой дзяржаве я жыву. Мне не хапае прыкмет дзяржаўнасці! Яны ёсць, але вонкавыя, не глыбінныя. Гэта цягнецца гадамі, я проста стаміўся. Ва ўсіх дзяржавах, калі ты – патрыёт, да цябе ставяцца з павагай. У нас рэакцыя прыкладна наступная: "Патрыёт? Значыць, нацыяналіст! Значыць, супраць Расіі!". Пабойцеся Бога, чаму? Чаму тады не супраць Польшчы, Украіны, Літвы?

• Я хацеў бы, каб наша дзяржава была незалежнай і магутнай настолькі, што магла б прымаць самастойныя рашэнні, каб лёс маіх дзяцей не залежаў ад таго, ці выспаліся ў Варшаве і Кіеве і ці паспелі пахмяліцца ў Крамлі.

• Я веру, што Беларусь будзе незалежнай! І па Канстытуцыі, я ўжо некалі казаў па радыё, буду абараняць суверэнітэт да апошняй кроплі крыві.

*Падрыхтаваў Сяржук Аржанцаў.*

Сакратарыят ТБМ віншуе спадара Дударава з юбілеем і зычыць яму далейшых творчых поспехаў на карысць Беларусі.

# Беларускі Салавей з Віцебска

*Становяцца крылы сівей і сівей,*
*Адзін на чужым узбярэжжы начуе,*
*І толькі бядуе стары Салавей,*
*Што дома ніхто яго песень не чуе.*

*С.Грахоўскі.*

Міхась Забэйда-Суміцкі! Гэта слыннае неардынарнае імя сусветнавядомага спевака з вяршыннай годнасцю рэдкаснага таленту і найвышэйшай адзнакай выканаўчага майстэрства, пры заўсёднай сардэчнай адданасцю мілай сэрцу Беларусі, шчырым служэнні яе культурна-адраджэнскім інтарэсам на усім працягу свядомага творчага жыцця, на вялікі жаль, яшчэ занадта мала, ці зусім невядомае многім маім землякам. А яго ж цудоўным хвалюючым голасам яшчэ ў памятныя 30-я гады захаплялася ледзь не ўся культурная Еўропа. Добра ведалі выдатнага спевака і ў многіх краінах іншых кантынентаў. Высокаадукаваныя музыказнаўцы і крытыкі тае пары яго імя ставілі побач з імёнамі славутых Ціта Скіпам і Леанідам Собінавым. Ён сябраваў з многімі вялікімі майстрамі вакалаў, у іх ліку з Ф.Шаляпіным і П.Робсанам. Выступаючы на лепшых оперных сцэнах свету, у Харбіне, Мілане (Ла Скала), Познані, Празе, Забэйда-Суміцкі спяваў на 18 мовах свету. Рэпертуар спявака быў амаль бязмежны. Ён уключаў вакальныя набыткі многіх нацыянальных культур ад штучных кампазіцый да народнай песні. Дзякуючы Забэйду-Суміцкаму ўдзячныя слухачы мелі прыемную магчымасць пазнаёміцца з мастацтвам не толькі ўсіх славянскіх народаў, але і з песнямі народаў паўночных і раманскіх.

Як вядома, рускую песню вялікі Шаляпін узнёс да вышэйшага мастацтва. Тое зрабіў з беларускай народнай песняй славуты Забэйда-Суміцкі. Ён узняў яе на такую небывалую вышыню, якая, мабыць, і не снілася ні яе творцу-народу, ні яе навейшаму мастаку-гарманізатару. Моцна трымаючы ў сваім трапяткім сэрцы родную песню, Забэйда-Суміцкі першым сярод беларусаў панёс яе за сабой за межы Бацькаўшчыны на еўрапейскую эстраду, не зважаючы ні на якія няспрыяльныя абставіны і перашкоды. На канцэртах Забэйды-Суміцкага можна было назіраць, як публіка заварожана рэагавала на кожны рух, на кожны пераход чароўнага голасу спевака, які першымі ж гукамі авалодваў думкамі і пачуццямі слухачоў і з яму ўласцівай лёгкасцю вёў іх лабірынтамі суперажывання. Гэта не быў проста высокі поспех: адбывалася нешта такое, што духоўна ўзбагачала людзей, збліжала паміж сабой рабіла іх лепшымі. Усе, без выключэння, яго выступленні ўспрымаліся з асаблівай цеплынёй і шчырасцю. На якой бы мове Забэйда-Суміцкі ні спяваў, заўсёды рабіў так пранікнённа, што яго нярэдка прымалі за свайго і прадстаўнікі іншых народаў.

Сёлета незабыўнаму беларускаму Салаўю спаўняецца роўна 100 гадоў, - угодкі, якія мусіць адзначыць шырока добрымі ўспамінамі цывілізаванае чалавецтва...

Нарадзіўся Забэйда-Суміцкі на пачатку 20 ст., якраз сярод лета, 14 чэрвеня 1900 г. у в.Падароск Ваўкавыскага р-на, Гарадзенскай воб. у беднай сялянскай сям'і, якая нават зямлі ўласнай не мела. Ягоны бацька – Іван Андрэевіч Забэйда, - селянін з в. Несцяровічы, - быў здольным чалавекам, прыгожа спяваў. Але рана памёр, калі малому Міхаську споўнілася толькі паўтары гады. Маці яго, - Аляксандра Феліксаўна (дзявочае прозвішча Суміцкая, якое пазней дарослы сын далучыць да бацькавага Забэйда і з гонарам пранясе спалучаныя прозвішчы бацькоў праз усе жыццёвыя выпрабаванні) паходзіла з суседняй вёскі Шэйпічы. У тыя аддаленыя часы хто-небудзь з бліжэйшага суседскага асяроддзя, у іх ліку і самі бацькі наўрад ці мог прадбачыць, якая бліскучая кар'ера ў будучым чакае малога хваравітага Міхаську, адзіна ўцалелага з сямі народжаных дзетак гэтай бядацкай сям'і. Звычайна такой ўзвышанай доляй пераборлівы лёс узнагароджвае прадстаўнікоў з добразабяспечаных сем'яў ды – шляхетнага паходжання. Але ж свет белы хоць і вельмі рэдка іншым разам усё ж дзівіць цікаўнае чалавецтва і зайдроснымі выключэннямі.

Услед за маці пачаў працаваць у маёнтку пана Бранца і 8-гадовы Міхаська: паганяў коней ў малатарні, дапамагаў асыпаць бульбу, зграбаць сена, вязаць за жняяркаю снапы і інш.

Хаця маці сама была непісьменнаю, але сынка хоць неяк старалася вучыць. Напачатку ў Шэйпічах Міхаська два гады наведваў своеасаблівыя курсы граматы ў вялікай вясковай хаце. Потым працягваў навучанне ў аднакласнай школцы ў в. Зельз ( за 6 вёрст ад Шэйпіч), пасля сканчэння якой перайшоў ў двухкласную царкоўнапрыходскую школу ў Галоўчыцах (ужо за 7 вёрст ад Шэйпіч). Вучыўся старанна, бо добра разумеў, як цяжка быць непісьменным, слухаўся ва ўсім маці. Галоўчыцкую школу Міхась скончыў ў 1914 г. За лета падрыхтаваўшыся, здаў, на здзіўленне аднавяскоўцаў, конкурсныя экзамены ў Маладзечанскую семінарыю. Стараўся і там вучыцца, як мага лепей, і ў канцы навучальнага года нават дабіўся права на атрыманне поўнай дзяржаўнай стыпендыі. Але далейшай вучобе перашкодзіла першая сусветная вайна, у 1915 г. у сувязі з набліжэннем фронту мусіў падавацца на ўсход. Тры гады давучваўся ў Смаленску, куды эвакуіравалася Маладзечанская семінарыя.

У 1918 г. Міхась выехаў у Сібір, дзе ў сяле Калманскім ля Барнаула атрымлівае пасаду настаўніка народнай школы. Але нядоўга давялося яму там працаваць.

Віхуры грамадзянскай вайны прымусілі зняцца з месца і Забэйду-Суміцкага. У канцы 1919 г. апынуўся ён у Маньжурыі ў г. Харбіне. Харбін у той час быў надзіва музычным горадам. З усяго свету сюды прыязджалі з канцэртамі розныя знакамітасці: Шаляпін, Эльман, Мянухін ... У Харбінскай оперы пачынаў сваю кар'еру вядомы спявак Лемешаў.

Працуючы настаўнікам у школе, Забэйда-Суміцкі, мабыць, толькі тут, на чужыне належным чынам усведаміў сваё сапраўднае прызванне ў жыцці. У яго памяці захаваўся цудоўны вясенні дзень, калі ён, 14-гадовы падлетак, у свежазазеляненым бярозавым гаі ля роднай вёскі наадзіноце натхнёна і шчыра заспяваў любімыя беларускія песні. Яго прыгожыя спевы збегліся з бліжняга лесу паслухаць мясцовыя нарыхтоўшчыкі смалы-жывіцы. Гэта быў першы Міхасёў імправізаваны канцэрт, высокаазадачаны і ўхвалены адзінагалосна тымі выпадковымі слухачамі. Пра свой шлях у вялікае мастацтва Забэйда-Суміцкі пазней пісаў: "Спяваць я любіў з дзяцінства: пачынаў з маці, потым у школах выбіралі мяне ў салісты дзіцячага хору, спяваў у царкве і нават на вяселлях. Мог нядрэнна іграць на розных інструментах: на мандаліне, гітары, балалайцы, гармоніку і нават на скрыпцы, якая засталася ад бацькі. А на губным гармоніку я мог зайграць усё, што толькі пачуў. У маёнтку Шэйпічы, дзе працавала мая маці, стаяў раяль. Калі прыязджалі панскія дочкі і пачыналі іграць, я гадзінамі стаяў і слухаў, забыўшыся пра ўсё на свеце. Калі яны ад'язджалі з двара і маці дазваляла мне сцерці з раяля пыл, я не мог утрымацца і пачынаў падбіраць на раялі знаёмыя мелодыі народных песень. Маці дзівілася і радавалася... У Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі навучэнцаў добра знаёмілі з тэорыяй музыкі, быў свой хор, вучылі дырыжыраваць. Аднак гэтага для сур'ёзнай музыкі было мала... У Харбіне я сістэматычна пачаў працаваць над пастаноўкай голасу. Са мной займалася прафесар Ю.К.Плотніцкая – былая супрацоўніца самога Шаляпіна, добрая артыстка і педагог. У Тамашынскай вучыўся іграць на раялі, а з дырыжорам Метэрам праходзіў курс гармоніі..."

Адначасова Забэйда-Суміцкі вучыўся на эканамічным аддзяленні Харбінскага універсітэту, не пакідаючы настаўніцтва ў школе, дзе зарабляў на жыццё. Універсітэт скончыў у 1929 г. на выдатна і яму прапанавалі пасаду асістэнта на кафедры эканомікі. Калі ж малады выпускнік адмовіўся ад гэтае прэстыжнае ласкі і падаўся ў мясцовую оперу, яго гатовы былі палічыць за вар'ята. А ў тэатры вольнага месца не аказалася. Прыйшлося працягваць працу ў школе і жыць спадзяваннямі. Неўзабаве дапамог шчаслівы выпадак. Спявак Шуклін парушыў кантракт з'ехаў у Шанхай. Тэрмінова спатрэбіўся артыст на партыю Ленскага ў оперы Чайкоўскага "Яўгеній Анегін". На пробу запрасілі Забэйду-Суміцкага. Экзамен быў вытрыманы паспяхова. За два тыдні напружанай працы партыя была падрыхтавана. Дэбют меў бліскучы поспех, прынёс прыемную вядомасць. Новага спевака адразу ж залічылі ў трупу опернага калектыву. Ён выконвае партыі Фауста ("Фауст" Гуно), Герцага ("Рыгалета" Вэрдзі), Альмівівы ("Севільскі цырульнік" Расіні), Уладзіміра ("Чарадзейка" Чайкоўскага), Пінкертона ("Мадам Батэрфляй" Пучыні), і інш. За тры гады працы былі падрыхтаваны болей за 15 адказнейшых партый. Пра Забэйду-Суміцкага захоплена гаварыць у музычных колах. У тагачаснай прэсе многія вядучыя крытыкі справядліва ацэньвалі яго як вялікага маэстра вакалу. Так кітайская газета "Гунбао" пісала: "Чулы музычны спявак Забэйда імкнецца асэнсаваць ролю ў самых дробных дэталях і па магчымасці пераўвасабляцца пры выкананні ролі. Артыст з часам будзе пажынаць лаўры на гэтай зайдроснай ніве. Грунтоўная думка аказалася прарочай...

Але Забэйда-Суміцкі не задаволены дасягнутым. Ён ужо марыць аб Італіі – калысцы оперы, цудоўнай краіне вакальнага мастацтва. На працягу 10 гадоў ашчаднага жыцця пакрысе адкладвае грошы са свайго сціплага заробку, каб мець магчымасць наведаць жаданую краіну. У 1932 г. Забэйда-Суміцкі пакідае Харбін і ѳдзе ўдасканальваць сваё майстэрства ў Італію.

(Заканчэнне ў наступным нумары)

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 29. 05. 2000 г.
Наклад 3300 асобнікаў. Замова № 1525
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
Кошт у розніцу: 35 руб.